Літаратурная старонка
ТРЫБУНА ЛІТАРАТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ № 47

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

Віктар ШВЕД

### БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

Дзе б толькі мяне лёс не кінуў,
Забыць на хвіліну не мог,
Так блізкія сэрцу мясціны,
Любімы бацькоўскі парог.

Знаёмае ўсё тут з маленства,
Прырода, усмешкі людзей.
Аднак штораз менш падабенства
З тым, што аглядаў тут раней.

Дарогі, дарогі і тыя
Змяняюць свой від на вачах.
Уздоўж іх слупы — вартавыя
Трымаюць драты на плячах.

Пабег па дратах, як па жылах,
Пад стрэхі вясковыя ток.
Дзе цьмяна капцілка свяціла,
Святло залунала здалёк.

Чутны гул маматараў на нівах
І песні чутны мілы тон
Людзей працавітых, шчаслівых,
Збіраючых з ніў свежы плён.

О, колькі ж у вас прыгажосці,
Палі з ураджаем, лугі,
Мясціны маёй маладосці,
Бацькоўскі куток дарагі.

Дзе б толькі мяне лёс не кінуў,
З далёкіх і блізкіх дарог
Заўсёды знайду пуцявіну,
На родны, бацькоўскі парог.

* * *

### ВЯТРАК

За вёскай, у полі, на ўзгорку,
Дзе ўецца гасцінец - бальшак,
Аб долі задумаўся горкай
Стары, спарахнелы вятрак.

«Найбольш адзінокі на свеце,
Аджыў, як відаць, я свой век.
З мяне насміхаецца вецер,
Пакінуў мяне чалавек.

Не рвуцца ў палёт мае крылы,
Шчаслівых не ўбачыць ім дзён,
Не хопіць напэўна ім сілы,
Каб з месца крануць мой жарон.»

Даўно перасталі ўжо людзі
Давозіць сюды абмалот.
Ды з кім ваяваць цяпер будзе,
Скажыце, фантаст — донкіхот?

* * *

### НАД МОРАМ

Цалуе далікатна мора
Пясчаны бераг хваляй пеннай.
Ля неабсяжнае прасторы
Быў я ў бяскрайнім захапленні.

Пляж аддзяляўся жоўта - белы
Ад гладзі вадзяной бясконцай.
Разам з людскім сагрэтым целам
Купалася у хвалях сонца.

На пляжы весялосць, забавы,
Тут людзі ў водпуску, вядома.
Пакінуўшы свае ўсе справы
Прыехалі пазбыцца стомы.

Раптам знікае смех на тварах,
Сэрцы сціскаюцца балюча.
Ідзе на пляж, за парай пара,
Дзяцей грамадка невідучых.

Селі і ў мора са здзіўленнем
Глядзяць аслепшымі вачыма.
Марскіх хваль чуюць шапаценне,
Аднак убачыць — немагчыма.

За ручкі ўзяўшыся, шнурочкам,
Пайшлі ізноў крутою сцежкай.
На тварыках і ў сляпых вочках
Я ўгледзеў весялосць, усмешку.

Дзяцей тых напаткала гора,
Іх лёсу нельга перайначыць.
Прыехалі здалёк над мора,
Каб мора гэтага не ўбачыць.

### НАШЫЯ ПРЫГАЖУНІ

Валасы ільняныя,
Вочы васільковыя,
Тварыкі румяныя,
Ручанькі здаровыя.
У працы не лянівыя,
У хаце непаседлівы,
Для людзей зычлівыя
І надзвычай ветлівы.
Заўжды служаць радаю,
Шчырай дапамогаю.
Яны ніц не падаюць
Прад бурай-трывогаю,
Пад цяжкою ношаю,
Пад жыцця нагрузкаю.
Прыгажуні нашыя,
Кветкі беларускія.

Вінцук САВА

## СЭРЦА МАТКІ

Зімны вецер прадувае праз шчыліны страхі. Цёмная, непагодная майская ноч. Тайком ад сям'і Галя пакінула цёплы ложак і ўзлезла сюды на гару. Разаслаўшы пасцілку і прыкрыўшыся старой вопраткай, курчылася ад болю, які разрываў нутро.

У хаце спакойна спяць шасцёра дзяцей і бязглузды муж. Спіць спакойна, яму і ў дзень галава не баліць, як пракарміць дзяцей. Усё на галаве Галі.

Галі не пашчасцілася ў жыцці. Выйшла замуж за ўдаўца — на трое дзяцей. Выбіраць не прыходзілася — сама мела дзіця. За гэткую лепшы не схопіцца. Муж спакойны, хваравіты зарабляў не многа. Затое Галя працавала, як мурашка. Яна з выгляду прыпаміналa мурашку: маленькая, рухлівая, хвіліны спакойна не пасядзіць, усё круціцца.

На яе кволыя плечы лёг у асноўным цяжар утрымання немаленькай сямейкі. Жылося нялёгка, але галоднымі не былі і босы - голы ніхто не хадзіў.

А пасля — сям'я павялічылася, заробкі не паспявалі за патрэбамі. Бяда пачала заглядаць у дом. Часам трэба было пазычыць кошык бульбы, каб накарміць сям'ю. Дзеці хадзілі босыя і абдзёртыя.

Муж знікаў з дому і не раз вяртаўся п'яным. Праўда, працвярозіўшыся, біўся ў грудзі і абяцаў папраўу, але хутка ўсё паўтаралася нанова. Часам прапіваў увесь скромны заробак.

Галя выбівалася з сіл. Было немагчыма цяжка. На дадатак увосені трэба было пакрыць страху, якая згніла. Узяла пазычку, якую трэба было штомесяц сплачваць.

І ў гэтым часе зноў цяжарная. Зверылася мужу.

«Дасць Бог дзяцей, дасць і на дзяцей», — бестурбостна адказаў той. Каб хто больш сур'ёзны гаварыў гэта, можна было падумаць, што наругаецца.

Не раз прыходзіла думка пазбыцца цяжарнасці. Але або работа пільная надаралася, або іншыя клопаты перашкаджалі, не прыбралася.

Муж, здавалася, забыў пра гэту размову. Перад іншымі ўкрывала цяжарнасць. І з гэтым мусіла ўправіцца сама.

І цяпер, калі яна корчыцца ад холаду і болю, муж спакойна спіць у хаце. Галя заціскае зубы, каб не крычаць і толькі ціхі енк вырываецца з вуснаў. Эх, хутчэй бы гэта скончылася.

І хіба не меншы ад гэтага боль выклікае думка, што зрабіць з дзіцём, калі і без яго, хоць ты галаву ў пятлю саджай.

Як жа было б добра, каб нарадзілася нежывое. Працавала цяжка да апошняга дня. Не раз падымала цяжкія мяшкі, якія не кожнаму мужчыну былі б пад сілу. Хай бы нарадзілася нежывое!

Зноў схапіў страшэнны боль, аж пацямнела ў вачах. І раптам палягчэла. Яе абудзіў да прытомнасці піск дзіцяці.

«Жывое!» — з расчараваннем падумала яна. Галю схапіў страх за будучыню ўсёй сям'і і адначасова злосць на безтурботнага мужа.

«Не, гэтак немагчыма, трэба з гэтым скончыць!» Сарваўшыся, схапіла ў рукі слізкае піскліваае стварэнне. Сціснуць горла і зараз будзе па ўсім. Кінула дзіця на пасцілку.

Жаласлівы крык дзіцяці пранік у сэрца. Рукі мімаволі апусціліся. «Яно ж на свет не прасілася!» — мільганула думка.

Скупы свет хмурнай майскай раніцы пранікаў праз акенца шчыта хаты. Глядзела на чырвоны, паморшчаны, старэчы тварык, выкрыўлены плачам.

«Зусім, як бацька, — падумала Галя. — І таксама нічога не думае. Чакае, што нехта за яго ўсё зробіць. А я ўжо не маю сілы. Лепш бы памерці разам з гэтым дзіцём.»

Зачыніла вочы, уяўляючы сябе ў труне. Як добра ні аб чым не думаць, ні аб чым не клапаціцца, заснуць бы так і не абудзіцца!

Унізе — глухі, ледзь чутны кашаль. Пэўна, абудзіўся муж. Зараз усе будуць уставаць, заўважаць, што яе няма, пачнуць шукаць. Не, нельга даўжэй ляжаць. Але што зрабіць з дзіцём? Яно папіскваe, уздрыгваючы ад холаду.

«Будзе праклінаць бацькоў за тое, што на свет пусцілі, — падумала. — Лепш хай памрэ. І самой жыць не хочацца.»

Устаўшы, выняла з куфра чыстыя пялёнкі. Закруціла дзіця і прысыпала ў кутку кастрыцай. Кут заставіла чыстай скрынкай і зышла з гары.

Хоць у галаве кружылася, а перад вачыма лёталі чырвоныя плямы, яна прыгатавала для сям'і снеданне і пайшла да суседа садзіць бульбу.

Носячы цяжкі кош, напоўнены бульбай, клала па бульбіне ў баразну. Цяжкі кош, як бы напоўнены не бульбай, а жалезам, не лягчэе, хоць бульбы павалі ўбывае.

Выразна пачула жаласлівы піск, уздрыганула, агледнулася кругом. Не, гэта толькі піск мышкі, якой бязлітасны плуг папсаваў норку.

«Беднае, сплыве крывёй, згіне ад холаду», — шаптала сэрца маткі.

«Так лепш будзе — для яго і для сям'і, — пацяшаў іншы голас, — яно ж яшчэ нічога не ўяўляе».

Зноў ёй прычуўся плач дзіцяці. Галя затрымалася, паставіла кошык, гатова бегчы дамоў, ратаваць дзіця.

Плуг аддаляўся штораз больш. Гаспадар затрымаў каня і аглянуўся. Галя прыпомніла, што яна садзіць бульбу. Вырасце бульба і яна дастане за сваю работу. Будзе чым накарміць сям'ю. А яно не званае, пакінутае, не пражыве нават гэтага майскага дня.

Галя спяшаецца, каб дагнаць каня. А ногі робяцца нейкія мяккія, як з ваты. Поле пачынае кружыцца каля яе. Зямля каля яе рассоўваецца і яна ляціць уніз, мусіць у пропасць без дна. Усё знікае, расплываецца, як імгла.

Калі адчыніла вочы, усё кругом было белае. Апрануты ў белы халат да яе падыходзіць доктар. Яна ў бальніцы.

Моўчкі глядзіць на доктара і не можа здабыцца на слова. Доктар бачыць пытане ў яе вачах.

— Дзіця тут, яно чуецца добра, — паясняе.

Шорсткі голас доктара сплывае, як аліва, на ўзбураныя марскія хвалі, супакойваючы ўзбураную стыхію думак.

## ФЭСТ

Цень Візантыі ў пошуме клёнаў, бяроз. Гнілыя дранкі зеляненюць мохам у месячнай бледнаце. Капліца. Стырчыць праваслаўе над злежаным пяском магіл. Асколак Русі ля падножжа дзевятай хвалі ўбогіх пагоркаў.

Матчын енк і плач дзіцяці тоіцца ў чорнай выспе зеляніны, заціснутай каменным абручом ля падножжа дзевятай хвалі ўбогіх пагоркаў. Маці забрала з сабою горыч жыцця. Краскі свету ў вачах дзіцяці рассыпаліся ў прах. Топчуцца і поўзаюць па іх сваякі ў экстазе — госці фэставай традыцыі.

Экстаз разменены на дробныя сумы, графік малебенаў па чарзе кідае на калені жывых да позняга вечара. З цемнатой наступае фаерант...

Гора хаваецца ў бяссоннай начы. Спачуванне храпе здаровым сном да світання.

САКРАТ ЯНОВІЧ

### ЯША БУРШ

Матуля
я хацеў бы быць
праменьчыкам
і цалаваць твае плечы
як згінаюцца працаваць

хацеў бы быць вадой
і змываць пот
з твару
і грудзей

а зімою вайлаком
схаваць ногі
ад марозу

і вострым скальпелем
каб выцягнуць
занозу неудач

маршчынкай роздуму
у працы
і шчырай усмешкай
у бесклапоцці

маім шчасцем
быць з Табою
у думках
сэрцы
у надвячэрняй
пазалоце

**У БЕЛАСТОЦКІМ ПАДПОЛЛІ**

# ДАВАЙЦЕ, ХЛОПЦЫ, ПАЧЫТАЕМ

У 1932 годзе Піліп Кізевіч разам з сям'ёю пераехаў у Беласток. Жылі ў доме пры вуліцы Зетраковай 19.

Аднойчы пастукалі ў дзверы.

— Уваходзьце!

Уваходзяць гродзенскія дэфензіўшчыкі Скірмунт і Шока.

— Добры дзень, пане Кізевіч! Як бачыце, знайшлі мы вас і тут. Што добрага чуваць?

— Дзякую за памяць, — Піліп з'едліва ўсміхнуўся. «Перадаюць, значыць, маю справу беластоцкім шпікам,» — падумаў.

— О, нават сочкі папіваеце? Добра пану жывецца, — Шока падышоў да акна, дзе стаяў слоік з ягадамі.

* ✲ *

Вясёлыя зімовыя кудзельніцы! У хаце Язэпа Грэся ў Пясчаніках, чутны людскі гоман, смех і... цурчанне калаўроткаў. Тут падросткі, моладзь і старэйшыя.

— Давайце, хлопцы, пачытаем, — кажа Жэнік Майсак.

— Ага, учора абяцалі расказаць нам аб паўстанні Кастуся Каліноўскага, — бялявы хлапчук Вася пачаў уціхамірваць сваіх аднагодкаў.

Жэнік пазірае ў бок Піліпа Кізевіча. Хвалюецца.

Разышліся позна. Ваську доўга сніўся ў тую ноч Каліноўскі — волат, велікан з доўгай чорнай барадою, якога з усіх бакоў абступаюць «гранатовыя» паліцыянты — лезуць яму на плечы, грудзі. Каліноўскі страсянецца і яны падаюць, бы мухі, хапаюцца за палкі. Ды што, калі сягаюць яму, Каліноўскаму, усяго да каленяў...

Піліп Кізевіч хваліў Жэніка.

— Ваш гурток самаадукацыі добры. Я задаволены. Але вось што — асцеражней абыходзьцеся з тымі дзяцьмі, якія ходзяць у школу. Ведаеце, каб не прагаварыліся яны дзе не трэба аб вашых «вечарынках». Хопіць, калі зацікавіце іх толькі беларускай мовай і літаратурай. Арыфметыкі ці геаграфіі іх настаўнікі вучаць.

— Разумею.

— Заўтра наладзьце дыктоўку. Рабіце так, каб ніхто з маладых не здагадаўся, што гэта спецыяльна арганізаваная дзейнасць, што ўдзельнічае ў гуртку самаадукацыі.

— Скажу: спрабуем, хлопцы, хто правільней перапіша пад дыктоўку ўрывак з паэмы «Новая Зямля» Якуба Коласа?

— Можна і так.

Піліп Кізевіч, беларускі настаўнік - канспіратар, пакрочыў зімоваю дарогаю. У платах трэскаў лютаўскі мароз.

Мінула некалькі дзён. Кізевіч апынуўся ў Навасёлках. З некалькімі партыйцамі абмяркоўвалі дзейнасць мясцовага гуртка самаадукацыі.

— Паліцыя пачынае звяртаць увагу на нашы сходкі.

— Трэба арганізаваць нейкае «прадстаўленне». У выпадку чаго-небудзь будзем тлумачыцца, што рыхтуем «смешную сцэнку».

— Прапаную п'есу «Пярэстая Красуля» або «Мікітаў лапаць».

За акном змяркалася. Раптам у хату ўбягае засопшыся дачка гаспадара.

— Да нас ідуць паліцыянты, пытаюць пра вас!

Кізевіч схапіўся з лавы, прысеў за кроснамі. Увайшло іх двух. У кухні жанчыны снавалі пражу.

— Ці не прыходзіў да вас такі адзін надта разумны чалавек?

— Пане, хто ж да нас, цёмных, хоча заходзіць? — сакочуць жанчыны.

— Ну, а ў вёсцы ніякага незнаёмага не заўважылі?

— Па-за вамі нікога, паночкі, не бачылі.

Праз бакавыя дзверы Піліп Кізевіч выбраўся ў агарод. Брыдучы ў снегавых гурбах, дабег да гумна. Агляну́ўся. Пуста навокал. Крынкаўскім гасцінцам дайшоў да Каралёвага Мосту.

На беластоцкай шашы вынырнулі са змроку сані.

— Вы куды, дзядзька, едзеце?

— У Беласток.

— Падвязіце мяне.

— Сядай, сынок.

Глуха гудзіць пушча, падувае сыры ветрык. Будзе адліга.

* ✲ *

Санацыйныя ўлады не дазвалялі арганізоўваць беларускія школы. Кіраўнічы актыў Галоўнай Управы ТБШ, членам якой з'яўляўся і Піліп Кізевіч, прадпрыняў нелегальную акцыю арганізавання т. зв. канспірацыйных школ пры дапамозе вясковага актыву КПЗБ. На працягу 1933—35 гадоў Піліп Кізевіч кантраляваў такія школы (гурткі самаадукацыі — с. я.) у Навасёлках, Пясчаніках, Дзернякове, Мялешках, Белявічах на тэрыторыі Беластоцкага павету.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# АПЕТЫТ ПРЫХОДЗІЦЬ З ЯДОЮ

**(Працяг са стар. 1)**

шматзначна намякнулі (паведамілі!), што цэны на цэглу даўно зменшаны...

У Беластоку разгневаліся.

— Адлегласцямі не выкручвайся! Напрыклад, большасць цэглы прывозіцца аж з Кашалінскага і Апольскага ваяводстваў, а яе цэны вышэйшыя, чым у нашых мясцовых цагельнях.

Навучаныя горкім вопытам, на 1963 год склалі скрамнейшую заяўку — на 45.700 тыс. адзінак газабетонных пустакаў. Не павінны перапалохацца?

— Дай Бог, каб далі хаця з палавіну... Хочуць цэглу болей распрадаць, — даверліва сказалі мне ў беластоцкім ВЗГС-е.

Выходзіць, цэгла старэе памалу. Газабетон нарадзіўся — ды вельмі ж умудронае імя.

**2 × ЗАБАРОНА**

Забараняецца крыць дах саломаю. Толькі чарапіцаю — усюды чарапіцаю, усё чарапіцаю. Яе транспарты доўга не залежваюцца на складах ПЗГС-аў. Купіш або і не паспееш купіць. Узяліся за арганізацыю вясковых калектываў прадукцыі будаўнічых матэрыялаў. Мала. Знайшліся індывідуальныя майстры, пакуплялі дахаўчаркі, робяць чарапіцу па заказу. Мой знаёмы, Славік Красько з Махнатага ў Гайнаўскім павеце, казаў:

— З продажам не бяда, паспявай толькі рабіць!

Але старэе цэгла, старэе і чарапіца. Лепшыя (лягчэйшыя) этэрніты плоскія і хвалістыя. Зноў, цяжка іх набыць — «мізэрныя» прыдзелы. Згодна з пагаворкаю: «Добрага панямногу».

Забараняюцца бяспланавыя будоўлі. План і дазвол афармляе павятовы аддзел архітэктуры. У ВЗГС-е не ўлічылі гэтага і маюць цяпер, так сказаць, прыемныя клопаты, у якіх ніхто ўжо не папракае, крытыкуе. Застаюцца сур'ёзныя лішкі цэменту (14.913 т.) цэглы (7.362 шт.), вапны, толю (папы).

Абавязак планавага будаўніцтва паменшыў яго тэмп. Дакладней, паменшыў лёгкадумнае і «дзікае» будаўніцтва. А з тэмпамі не бяда, паказчыкі растуць хутка. Можна зрабіць параўнанне з папярэднімі гадамі.

У Гайнаўскім павеце ў 1960 г. прадана 1.114 тыс. цэглы і 3.420 т. цэменту; у 1961 г. — 1.526 тыс. цэглы і 5.753 т. цэменту, а за II-гі квартал г.г. ужо 616,2 тыс. цэглы і 1904,1 т. цэменту (красавік, май, чэрвень). Падобныя лічбовыя прапорцыі і ў Сямяціцкім, Беластоцкім, Сакольскім, Дуброўскім паветах, крыху слабей на Бельшчыне.

**АЛЯКСАНДР АНТАШЭВІЧ**

# У ТЭАТРЫ ІМЯ А. ВЯНГЕРКІ
# ФАНТАЗЫ



**Юзэф Чарняўскі** (злева) — Жэчніцкі і **Яцэк Брык** — Фантазы.

Новы сезон беластоцкі тэатр распачаў п'есай «Фантазы» Юліюша Славацкага. Прыгожая (як усё Славацкага) поўная прастаты і чалавечнасці гісторыя з часоў, калі Польшча (правільней частка яе) знаходзілася пад царскай уладай.

Сям'я графа Рэспекта. Бацькі і дочкі. Першыя дзеля ратавання гонару роду гатовы выдаць за грошы сваю дачку Д'янну замуж за балбатуна графа Дафніцкага (Фантазы), і тая ж Д'янна — чулая на крыўду і няспраўядлівасць, сэрцам адданая бедным. Яна кахае з узаемнасцю выгнанніка Яна, сасланага царом у Сібір у салдаты.

Урэшце, постаць рускага маёра Вальдэмара Гаўрылавіча, асабліва хвалюючая ў канцы, у гадзіне смерці, калі ён аддае ўсе ашчаднасці свайго жыцця, каб граф Рэспект згадзіўся аддаць Д'янну за Яна. Графу грошы і былі найважнейшыя. Тым больш, што і Фантазы, шчыра парушаны высакароднасцю маёра, звяртае Д'янне слова.

Рэжысіраваў п'есу дырэктар тэатра **Ежы Зегальскі.** Салідная, закончаная работа.

Сцэнаграфія — **Рышард Кузышын.**

У важнейшых ролях: граф Рэспект — **Еўгеніюш Дзеконскі.** Яго жонка — **Вітольда Чарняўская,** Д'янна — **Тэафіля Заглабянка,** Стэла, яе сястра — **Эва Навроцкая,** граф Фантазы Дафніцкі — **Яцэк Брык,** Жэчыцкі, яго прыяцель — **Юзэф Чарняўскі,** графіня Ідалія — **Карына Васькевіч,** маёр — **Станіслаў Яшкоўскі,** Ян — **Зігмунт Навроцкі.**

вл

— Мне не падабаецца ваш выгляд. Вам трэба адпачыць. У вас для гэтага тут цудоўныя ўмовы: раскошны парк, пад бокам рэчка. Дарэчы, вы не рыбак? Тут водзяцца цудоўныя фарэлі. Гэта для вас найлепшае лякарства. У мяне ёсць адзін пацыент, маёр Штэнгель, дык ён амаль кожны дзень бегае берагам рэчкі і цягае фарэль.

Курт адвёз Мацін у мястэчка і вярнуўся адтуль з вудачкамі і іншымі рыбацкімі прыладамі, якія па даручэнню обер-лейтэнанта купіў у мясцовых крамароў.

Вечарам прыйшоў Лютц.

— Слухай, Генрых, — сказаў ён, — я хацеў бы цябе спытаць:. хто я табе, сябра ці звычайны знаёмы?

— Калі ва ўсёй нямецкай арміі ёсць чалавек, з якім мне заўсёды прыемна і хочацца размаўляць, дык гэта гаўптман Карл Лютц, якога я лічу сваім шчырым сябрам.

— Тады, на правах сябра, я табе скажу вось што. Ты выхаваны, культурны і, мне здаецца, гуманны чалавек. Але часам твае ўчынкі проста незразумелы для мяне. Ну, на якога чорта табе патрэбна сяброўства з Мілерам і Кубісам? Навошта ты, кахаючы Моніку, заручыўся з дачкою Бертгольда?

Як дорага даў бы Генрых за права на звычайную людскую шчырасць! Ён верыў Лютцу, паважаў яго за добрае сэрца, быў перакананы ў шчырасці яго

223

дружбы. І ён не мог нават намякнуць яму на тое, што кіруе ўсімі яго ўчынкамі.

— Відавочна, Карл, у мяне ёсць нейкая авантурыстычная жылка, якая спакушае мяне гуляць з агнём. Але даю табе слова, нічога несумленнага я яшчэ не зрабіў, і, спадзяюся, ніколі не зраблю. Калі ты мне верыш, то прымай мяне такім, якім я ёсць.

— Але як жа ты цяпер думаеш сабе аб узаемаадносінах з Лорай Бертгольд?

— Клянуся табе — маёй жонкай яна ніколі не будзе! Выйшла па-дурному. Бертгольд злавіў мяне на кручок. Калі сустрэў я Моніку, хацеў усё з Лорай пакончыць, але потым вырашыў, што да канца вайны лепш пакінуць усё так, як ёсць. Ён знайшоў бы прычыну, каб мне адудзячыць!

— Тут ты маеш рацыю. І з майго сэрца спаў адзін камень. Але застаўся найцяжэйшы: што ты думаеш зрабіць з Мілерам? Папярэджваю, калі ты яго не заб'еш, то гэта зраблю я! І не толькі за Моніку, а і за тую цяжарную жанчыну, якую ён прыстраліў, за ўсю нявінную кроў, што ён праліў! Аднойчы я хацеў пусціць сабе кулю ў лоб, а потым вырашыў, што можна выкарыстаць яе лепш.

— Лютц, няўжо ты думаеш, што я падарую яму смерць Монікі?

— Тады зробім гэта разам!

**(Працяг за тыдзень)**

224

